ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 29 (2483) 18 ліпеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.


## СВЯТА СТАЛІЦЫ



### СВЯТА ГОРАДА 6 ЛІПЕНЯ
### Я люблю Мінск



Свята горада, якое адбылося ў нядзелю 7 ліпеня, прайшло пад дэвізам "Я люблю Мінск". І сапраўды, як жа яго не любіць! У гэты дзень, як па заказу, З раніцы быў горад заліты сонцам, быццам бы лета ў рэшце рэшт успомніла пра змучаную бясконцымі даждждамі беларускую сталіцу. І толькі моцны вецер раздуваў спадніцы, надзімаў ветразі яхтаў, якія, як птушкі, лёталі па Свіслачы, зрываў капелюшы і... цукровую пудру з тартоў і бісквітаў, якія можна было набыць проста на вуліцы. Дарэчы, сваю прадукцыю ў гэты дзень выставілі на продаж многія гандлёвыя прадпрыемствы горада, і было гэта вельмі добра, б о н я г л е д з я ч ы на тое, што жадаючых пачаставацца дранікамі, шашлыкамі, смажанымі курамі ці кандытарскімі вырабамі было вельмі шмат, доўгай чаргі перад прылаўкамі не было.

Дзеянні ў гэты дзень разгортваліся па ўсім горадзе. У парку Янкі Купалы адбыўся вернісаж і канцэрт, у Траецкім прадмесці вечарам была паказана опера "Дзікае паляванне караля Стаха", а ўвечары недалёка ад парку Янкі Купалы адбылася водная феерыя... Скончыцца свята павінна было ў поўнач феерверкам, ну а далей жадаючыя маглі ўжо па ўласнай праграме хоць да раніцы шукаць папараць-кветку ў дварах і па вуліцах роднага горада.

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

*У ВЯНОК ПАМЯЦІ ЯНУ ЧАЧОТУ*

## ТРЭЦІЯ КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ

23-га чэрвеня на Карэліччыне, а 24-га ў Мінску ў Доме літаратара прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння беларуска-польскага паэта і фалькларыста Яна Чачота.

Бадай, самай важнай падзеяй святочных урачыстасцяў стала адкрыццё помніка-бюста Яну Чачоту на цэнтральнай плошчы Карэліч. Аўтар яго -- вядомы скульптар А.Шатэрнік. Глыбокія па зместу, пранікнёныя словы пра слаўнага сына зямлі навагрудскай сказалі пісьменнікі Янка Брыль, Вольга Іпатава.

Напярэдадні святкавання юбілею райвыканкомам, Камітэтам памяці Адама Міцкевіча, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францішка Скарыны былі арганізаваны Трэція (Першыя міжнародныя) карэліцкія навуковыя чытанні, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння беларуска-польскага паэта і фалькларыста Яна Чачота.

Аналізуючы яго творчасць, літаратары-даследчыкі, у прыватнасці Анджэй Булгак, які выступаў па тэме: "Ян Чачот у святле польскіх гістарычных крыніц. Спроба іх інтэрпрэтацыі", унёс напачатку ноткі збянтэжанасці ў залу адносна даты і месца нараджэння паэта. А Дабраслана Свярчыньска з Варшавы, якая

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

**ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ**

## ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСАЎ

Задача гэтага нарыса заключаецца ў тым, каб адказаць на асноўнае пытанне і мноства дапаўненняў да яго: ці садзейнічала рэлігія наогул і асабліва хрысціянства развіццю нацыянальнай самасвядомасці беларусаў? А калі садзейнічала, то ў якой ступені і ў якім кірунку на розных этапах беларускай гісторыі? У чым заключаецца творчая роля рэлігіі ў станаўленні, развіцці і захаванні беларускай культурнай традыцыі? Ці мелі беларусы ў мінуўшчыне сваю нацыянальную рэлігію? Калі ж яны не мелі яе, то ці магчыма гэткая рэлігія сёння і ў будучыні? У якой ступені хрысціянства ёсць звышнацыянальнай, сусветнай рэлігіяй і ці здольнае яно адаптавацца да разнастайнасці рэгіянальных сацыя-культурных умоваў і самабытнага менталітэту розных плямёнаў, народаў і нацыяў? Урэшце, ці можна спадзявацца, што хрысціянскія цэрквы -- праваслаўная, каталіцкая, пратэстанцкая -- дапамогуць беларусам выйсці з нацыянальнага крызісу, выкліканага двухсотгадовым ігнараваннем беларусаў як самастойнай нацыі?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, неабходна раскрыць месца рэлігіі ў гістарычным лёсе народа на розных этапах яго станаўлення і духоўнага развіцця. Патрэбна таксама ўдакладніць ключавыя паняцці гэтай праблемы. Паняцце нацыянальная самасвядомасць дакладна адлюстроўвае экзістэнцыяльны, бышыны аспект гэтай праблемы сёння і ў папярэднія два--тры стагоддзі. Экстрапаляцыя гэтага тэрміна на ранейшыя эпохі, калі нацыі яшчэ не сфарміраваліся як адносна цэласныя этна-культурныя і палітычныя сістэмы, непазбежна вядзе да мадэрнізацыі гісторыі, якую можна не браць пад увагу ў публіцыстыцы, але пажадана не дапускаць у навуковых даследаваннях. Прапануецца наступная трохступенная іерархія паняццяў, якая адлюстроўвае тры гістарычныя вектары

**(Працяг на 5-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ІНІЦЫЯТЫВА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

## КАБ ПАЧУЛІ НАШ ГОЛАС

"Сённяшняя ініцыятыва Прэзідэнта нашай краіны аб стварэнні бяз'ядзернай зоны не нарадзілася адразу, яна выпакутавана і знаходзіцца ў рэчышчы ажыццяўляемай ім палітыкі". Так заявіў памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Посахаў, каменціруючы яго заяву, зробленую 3 ліпеня.

Паводле слоў Сяргея Посахава, Аляксандр Лукашэнка пайшоў на гэта, улічваючы настойлівае імкненне многіх суседніх дзяржаў уступіць у НАТО, а таксама іх заявы аб тым, што яны маюць намер быць паўнацэннымі членамі альянсу і, як вынік, ніякіх гарантый і абяцанняў па недапушчэнню размяшчэння на іх тэрыторыі ядзернай зброі ўзяць на сябе не могуць. "Таму Аляксандр Лукашэнка прапанаваў зрабіць гэты працэс шматбаковым, з тым каб усе краіны Балтыі, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія імкнуцца ў НАТО, узялі на сябе пэўныя абавязацельствы і стварылі ў рэгіёне бяз'ядзерную зону. У гэтым выпадку ядзерная зброя, якая належала Савецкаму Саюзу і краінам Варшаўскага Дагавора, і тая, што сёння выводзіцца або ўжо выведзена з гэтай тэрыторыі, не будзе ў перспектыве заменена на ядзерную зброю НАТО".

На думку Сяргея Посахава, заключэнне такога пагаднення сёння магло б пазбавіць многія краіны, якія імкнуцца ў НАТО, ад пакутлівага выбару. Далучыўшыся да беларускай ініцыятывы, яны маглі б стаць членамі НАТО, не падвяргаючыся рызыцы размяшчэння на сваіх тэрыторыях ядзернай зброі.

"Больш таго, мы лічым, што гэты раён Еўропы ўяўляе сабой нейкую этнакультурную прастору, звязаную пэўнымі гістарычнымі, культурнымі і проста чалавечымі сувязямі. Ён уяўляе сабой даволі зразумелую ў сэнсе інтарэсаў бяспекі прастору. Гэта таксама з'явілася прычынай выступлення Аляксандра Лукашэнкі з такой ініцыятывай", -- сказаў памочнік кіраўніка дзяржавы.

Сяргей Посахаў таксама заявіў, што Беларусь разлічвае на шырокі грамадскі і палітычны рэзананс наконт ініцыятывы кіраўніка нашай дзяржавы. У гэтым выпадку практычныя шляхі вырашэння вельмі складанага пытання -- пошуку новай мадэлі агульнаеўрапейскай бяспекі -- могуць быць знойдзены ў ходзе шматбаковых кансультацый. Ініцыятыва, паводле яго слоў, вельмі важная і з пункту гледжання ўдзелу ў працэсе фарміравання агульнаеўрапейскай бяспекі такіх невялікіх дзяржаў, як Беларусь. "Неабходна, каб наш голас,голас нашых суседзяў у гэтым працэсе быў пачуты і ўлічаны", -- сказаў ён.

ПАМЯЦЬ ПРА АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ



Прайшло больш пяцідзесяці гадоў, як скончылася вайна, але мы помнім пра яе. Лютаскія баі 1944 года на тэрыторыі Беларусі... Жорсткімі яны былі ў раёне вёсак Асіпенкі, Вішні, Шарова, Рыжыкі, Іструбішча Лёзненскага раёна. Толькі за 10 дзён баёў 251-я стралковая дывізія страціла больш 300 салдат, сяржантаў і афіцэраў. Некаторыя, што загінулі ў раёне ракі Чэрніца, былі перапахаваны пасля вайны, але многія так і засталіся ляжаць у акопах, траншэях і варонках.

У мінулым годзе членамі ваенна-патрыятычнага клуба "Пошук" ПТВ-19 у раёне вёскі Вішні былі знойдзены астанкі 12 загінуўшых воінаў 251-й стралковай дывізіі. На жаль, тады не атрымалася іх перапахаваць з-за адсутнасці сродкаў. Уся ж гэтая работа вядзецца на грамадскіх пачатках. 2 ліпеня 1996 года ў вёсцы Касцеева Лёзненскага раёна адбылося перапахаванне астанкаў загінуўшых абаронцаў Айчыны.

НА ЗДЫМКУ: цырымонія перапахавання.

СПРАВЫ БАНКАЎСКІЯ

## АДНЫ ЛІКВІДУЮЦЦА, ІНШЫЯ ЗЛІВАЮЦЦА

Нацыянальны банк Беларусі прыняў рашэнне ліквідаваць камерцыйныя банкі "Дукат", "Магнатбанк", "Інтэкс", "Садружнасць", "Беларускі крэдыт".

А "Белзнешэканомбанк", "Брэсткамбанк", мінскі і гродзенскі "Комплексбанк" у бліжэйшы час магчыма аб'ядноюцца.

Як паведаміў начальнік упраўлення развіцця і каардынацыі дзейнасці "Белзнешэканомбанка" Анатоль Бондараў, "Брэсткамбанк" і гродзенскі "Комплексбанк" атрымаюць статус рэгіянальных банкаў. Плануемае аб'яднанне чатырох банкаў -- зусім не спроба "Белзнешэканомбанка" нарасціць свой капітал. Усімі бакамі, што ўдзельнічаюць у працэсе аб'яднання, рухаюць меркаванні практычнай выгады, падкрэсліў А.Бондараў.

КОНКУРС АРХІТЭКТАРАЎ



Падведзены вынікі рэспубліканскага агляду-конкурсу лепшых архітэктурных твораў года, а таксама вынікі адкрытага конкурсу на праект мемарыяла ў памяць герояў і ахвяр чарнобыльскай катастрофы, які будзе ўстаноўлены ў Мінску на перасячэнні вуліц Арлоўскай і Карастаянавай. З 22 пададзеных для ўдзелу ў конкурсе эскізных праектаў лепшай прызнана работа аўтарскага калектыву з Брэста ў складзе Леаніда Радзько, Аляксея Андраюка і Андрэя Селеха.

Сярод горадабудаўнічых праектаў лепшай названа "Горадабудаўнічая канцэпцыя забудовы тэрыторыі ў межах вуліц Кастрычніцкай і Леніна ў Мінску".

У намінацыі "Манументальнае мастацтва" лепшым названы рэалізаваны праект "Маладзечна. Шталаг 352. Канцлагер савецкіх ваеннапалонных і жыхароў Маладзечна". Гэтая ж работа ўдастоена Гран-пры конкурсу. Акрамя таго, шэраг праектаў удастоены спецыяльных узнагарод Беларускага саюза архітэктараў.

НА ЗДЫМКУ: у адной з залаў, дзе выстаўлены лепшыя архітэктурныя праекты года.

ЭКАЛОГІЯ

## ШВЕЦЫЯ ЎСТРЫВОЖАНА

Брудная вада Заходняй Дзвіны пагражае не толькі людзям і прыродзе Беларусі, але і экалагічнай бяспецы іншых краін, у прыватнасці Швецыі.

Да такога вываду прыйшлі ў Міністэрстве навакольнага асяроддзя гэтай скандынаўскай дзяржавы. Гэта і стала прычынай візіту ў Віцебскую вобласць шведскай экалагічнай дэлегацыі на чале з дзяржсакратаром міністэрства Максам Лэнрам. Асобае апасенне выклікае ў скандынаваў басейн Заходняй Дзвіны ў раёне Наваполацка з яго нафтахімічнымі прадпрыемствамі. Як вядома, за апошнія 8 гадоў прамысловыя гіганты горада некалькі разоў выпускалі ў раку ядавітыя рэчывы, у тым ліку -- сінільную кіслату.

ЗДАРЭННІ

## ТРАГЕДЫЯ Ў МАЗЫРЫ

Магутны выбух разбудзіў незадоўга да світання многіх жыхароў Мазыра, якія пражываюць на вуліцы Пралетарскай. Трагедыя здарылася на пятым паверсе ў першым пад'ездзе аднаго з пяціпавярховых мураваных дамоў. У выніку выбуху тры чалавекі загінулі, два -- шпіталізаваны.

Прычынай выбуху, хутчэй за ўсё, стала ўцечка газу.

РЭХА ВАЙНЫ



Дзве авіябомбы знайшоў пры правядзенні земляных работ у Віцебску рабочы "Гарвадаканала" Ігар Вайцяхоўскі. Выкліканыя з ваеннай часці сапёры выцягнулі і абясшкодзілі 102 асколачна-фугасныя авіяцыйныя бомбы. Колькі смертаноснага грузу захоўвае яшчэ зняверчаная вайной беларуская зямля...

НА ЗДЫМКУ: бомбы, знойдзеныя ў Віцебску.

ЖЫЦЦЁ СТУДЭНЦКАЕ

## ЗАМЕЖНЫЯ ВАЛАНЦЁРЫ

Студэнты з еўрапейскіх краін, ЗША і Канады вырашылі добраахвотна папрацаваць у нашай рэспубліцы.

З 15 ліпеня некаторыя з іх будуць працаваць у рэспубліканскім дзіцячым лагеры "Надзея XXI стагоддзя", што размешчаны на Вілейскім вадасховішчы. Іх падапечныя -- дзеці з чарнобыльскіх раёнаў Беларусі -- праходзяць там курс аздараўлення. А тыя з валанцёраў, хто цікавіцца гісторыяй, ужо заняты рэстаўрацыяй Навагрудскага замка, дапамагаюць весці археалагічныя раскопкі ў Гродне.

Такое праўдзенне летняга часу арганізавала для замежных студэнтаў Ліга добраахвотнай працы моладзі. З дапамогай гэтай маладзёжнай арганізацыі аналагічныя атрады беларускіх добраахвотнікаў пачалі ўжо работу на сацыяльных аб'ектах у Германіі, Францыі, Італіі і Англіі.

НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



"Вечназялёнае дрэва рамёстваў", -- так называецца выстава народнай творчасці, якая адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.

Яе мэта -- паказаць сучасны стан гэтага віду нацыянальнай культуры, асабліваці і характар народнага мастацтва ў нашы дні. Экспазіцыя пабудавана па рэгіянальнаму прынцыпу, што дае магчымасць параўноўваць развіццё рамёстваў у розных месцах рэспублікі. Тут прадстаўлены ўсе віды рамёстваў, якія бытавалі з даўніх часоў на нашай зямлі: ткацтва і разьба па дрэву, саломапляценне і ганчарная справа, пляценне з лазы і інкрустацыя, вышыўка. А такія віды народнай творчасці, як ткацтва, выцінанка, саломапляценне, захавушы традыцыю, узбагаціліся яшчэ і новымі матывамі, узорамі, а каларыт стаў больш яркі, насычаны.

НА ЗДЫМКУ: работы народных майстроў.

*Упраўленнем юстыцыі Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта 24 чэрвеня 1996 года зарэгістравана*

## ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "НЕПАЎНАЛЕТНІЯ АХВЯРЫ НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ"

Мэтай аб'яднання з'яўляецца:

абарона сацыяльных, палітычных, эканамічных, асабістых правоў і свабод, садзейнічанне паляпшэнню матэрыяльнага становішча, жыллёвых умоў і іншых форм забеспячэння асоб, якія перажылі гады нямецкай акупацыі ў дзяцінстве; узнаўленне сапраўднай гістарычнай памяці аб вайне 1941--1945 гадоў.

Аб'яднанне з'яўляецца юрыдычнай асобай і можа ажыццяўляць вытворча-гаспадарчую дзейнасць, фарміраваць бюджэт з розных крыніц паступленняў, не забароненых законамі Рэспублікі Беларусь, у мэтах выканання сваіх статутных задач.

Прэзідэнтам аб'яднання абраны Леанід Лужанкоў; кіруючы орган -- Савет аб'яднання.

*Каго зацікавіць гэта інфармацыя, падаем адрас, па якім можна звяртацца:*

г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 46.
Тэлефон 2-34-91-14.

**ДЫСКУСІЯ**

# БІТВА НА ПОЛІ ГІСТОРЫІ

**У канцы мая наша газета змясціла заяву, падпісаную шэрагам беларускіх гісторыкаў -- А.Грыцкевічам, М.Ермаловічам, М.Касцюком, Г.Кісялёвым, У.Конанам, А.Мальдзісам, В.Скалабанам, Г.Штыхавым, звернутую да кіраўніцтва Дзяржкамдруку Беларусі і Беларускай Энцыклапедыі. Вучоныя выказвалі пратэст супраць дзеянняў новапрызначанага кіраўніцтва БелЭН і ўвогуле тых прынцыпаў і метадалагічных падыходаў, што ўсё болей усталёўваюцца ў айчыннай гістарыяграфіі. Сапраўды, апошнім часам тут назіраецца акрэсленае процістаянне пазіцый і поглядаў, вастрыня якога толькі расце. Дарэчы, гэта адчуваецца і ў тых пісьмах, што прыходзяць у рэдакцыю.**

**Мяркуючы па падзеях, навуковая, але з яўнай палітычнай афарбоўкай спрэчка будзе працягвацца. А таму мы хацелі б даць нашым чытачам магчымасць больш падрабязна пазнаёміцца з аргументамі і вывадамі процілеглых бакоў. Сёння на пытанні карэспандэнта "Голасу Радзімы" адказвае Пётр ПЕТРЫКАЎ, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, прафесар, доктар гістарычных навук, былы дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі, цяпер першы намеснік Галоўнага рэдактара Беларускай Энцыклапедыі.**

*-- Пётр Ціханавіч, факты гавораць пра тое, што сёння на першы план беларускай гістарыяграфіі выходзіць новая навуковая школа з прынцыпова іншымі падыходамі і метадалогіяй у параўнанні з той, што існавала апошнія 3-4 гады. Гэта сапраўды новая плынь ці аднаўленне ранейшага савецкага накірунку ў гістарычнай навуцы?*

-- Пытанне не простае. Наколькі я разумею, яно ўтрымлівае і пэўнае палітычнае адценне. Якая метадалогія існавала і існуе, а дакладней -- панавала і пануе ў гістарычнай навуцы Беларусі не апошнія 3-4, а апошнія амаль 10 гадоў? Гэту новую метадалогію, замест ранейшай марксісцка-ленінскай, якая панавала ў савецкі час, дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, член-карэспандэнт АНБ Міхаіл Касцюк сфармуляваў так: гісторыя нашай Бацькаўшчыны павінна быць дэідэалагізавана, дэпартызавана і дэпалітызавана. Такое "навуковае" адкрыццё выклікала ў вучоных толькі ўсмешку. Тым не менш, метадалогія "трох дэ" паслядоўна і настойліва ўкаранялася ў новыя гістарычныя працы. І што атрымалася? З нашай гісторыі, напрыклад, была "выкінута" Кіеўская Русь -- магутная дзяржава ўсходніх славян, якія потым сталі самастойнымі беларускім, рускім і ўкраінскім народамі. Такая вось адбылася дэідэалагізацыя. А з рускіх, рускага народа, Маскоўскай дзяржавы, Расійскай імперыі сталі "ляпіць" вобраз ворагаў, захопнікаў, акупантаў, якія знішчалі і катавалі беларусаў. У другім томе ЭГБ, напрыклад, чытачу прапануецца наступнае: кіраўнік гарнізона ў Вільні князь Даніла Мышэцкі "беременных женщин на крюках за ребра вешал, и они, вися на крюках, рожали младенцев".

Так за шыльдай "трох дэ" сталі з'яўляцца сурагаты гісторыі, запанавала ідэалогія выхавання беларускага народа ў духу нянавісці да расійскай "імпэрскай" нацыі, якая быццам бы прыносіла нам, беларусам, толькі гора. Не выпадкова, што ў антырасійскіх акцыях БНФ ёсць элемент і згаданага вышэй гістарычнага "выхавання" перш за ўсё нашай моладзі.

Натуральна, што не ўсе гісторыкі пагадзіліся з такім курсам Інстытута гісторыі АНБ, адлюстраваннем яго ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і іншых выданнях. Таму размова ідзе не аб новых навуковых плынях і школах, новай метадалогіі ў параўнанні з метадалогіяй "трох дэ", а пра элементарныя добрасумленныя адносіны вучоных-гісторыкаў да пошукаў ісціны. І выкарыстанні грамадска-выхаваўчай ролі гісторыі ў напрамку добрых узаемаадносін нашага народа з суседзямі.

*-- Ці можна расцэньваць ваш выхад наперад, як перамогу ў навуковых спрэчках? Якія ёсць аргументы наконт таго, што маеце рацыю менавіта вы? У чым прынцыповыя асаблівасці вашых падыходаў і метадаў у гістарыяграфіі? Ці не з'яўляецца цяперашняя сітуацыя фактарам больш палітычным, чым навуковым?*

-- Зноў няпростыя пытанні. Адказ мой на першае будзе такі: ні наперад, ні назад у гістарычнай навуцы я асабіста не тузаўся; не падзяляю я метадалогіі "трох дэ", ненавуковых новых і старых падыходаў; размова не аб гэтым, не аб кан'юнктуры ў навуцы, а яе няспынным далейшым развіцці, і тут быў і застаецца толькі адзін "падыход" -- адлюстраванне аб'ектыўнай рэальнасці ў яе гістарычным развіцці. Ці маю рацыю менавіта я? Лічу, што маю, калі выступаю супраць адмаўлення ў нашай гісторыі Старажытнарускай дзяржавы, калі імя ўласнае "Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае" замяняюць на "Беларуска-літоўскую дзяржаву" (такой афіцыйнай назвы не было), калі ў "Нарысах гісторыі Беларусі" ў 2-х частках (1994-1995) пішуць аб "татальнай русіфікацыі Беларусі", "забароне беларускага друку" і не пішуць аб капітуляцыі фашысцкай Германіі, пра Дзень Перамогі і парад Перамогі ў Маскве ў 1945 годзе. Я супраць такіх "новых падыходаў". Гэта адказ і на ваша трэцяе пытанне. Чацвёртае пытанне цяжка "ўзважыць". Безумоўна, на мой погляд, адно: за шыльдай "дэпалітызацыі" перш за ўсё Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі зрабіў, я бы сказаў, небяспечны крэн у бок гістарычнага апраўдання палітыкі БНФ, якая, як паказалі і апошнія падзеі на праспекце Скарыны ў Мінску, прасякнута ваяўнічай антырускай і антырасійскай накіраванасцю.

*-- Калі "пад нож" ідуць ужо гатовыя тамы энцыклапедыі, а з рэдкалегіі ў сілавым аднабаковым парадку выводзяцца вядомыя вучоныя, ці застаецца права на альтэрнатыўны пункт гледжання? Ці не складваецца так, што зараз думка апанента не толькі аспрэчваецца, але забараняецца?*

-- Ох, ужо гэтыя забароны... Не ведаю, што вы маеце на ўвазе, а ў БелЭН (я працую два месяцы) пра забароны нічога не чуў. Распаўсюджваюцца плёткі і аб згубе "гатовых тамоў". Каб чытачы ведалі праўду, скажу наступнае. Калі Галоўным рэдактарам БелЭН прызначылі вядомага паэта і дзеяча нашай культуры Генадзя Пашкова, то выявілася, што першы том 18-томнай "Энцыклапедыі Беларусі" ранейшым кіраўніцтвам не быў падпісаны да выхаду ў свет. Павінен быў пазнаёміцца з кнігай новы кіраўнік, за якую прыходзілася несці адказнасць? Павінен. Пры гэтым у некаторыя артыкулы, са згоды аўтараў, былі ўнесены ўдакладненні. І том неўзабаве ўбачыў свет. Так пры чым жа тут "нож"? Трэці том ЭГБ знаходзіўся ў карэктуры, у яго таксама ўнесены ўдакладненні са згоды аўтараў, і ў бліжэйшы час чытачы пазнаёмяцца з ім. Наконт рэдкалегій у выдавецтве БелЭН. У іх склад спецыялісты "ўводзяцца" і "выводзяцца". Так было, ёсць і будзе. Абноўлены склад рэдкалегіі 4-га тома ЭГБ, абнаўленні будуць і ў 18-томнай. Жыццё не прыпыніш.

*-- Сярод нязгодных з вамі і вашымі аднадумцамі -- прызнаныя вучоныя, імёны якіх шырока вядомы навуковаму свету, людзі, чыя навуковая дзейнасць наўрад ці падлягае сумненню. Ці ўсё ж такі, з вашага пункту гледжання, падлягае? У прыватнасці, як вы ставіцеся да даследаванняў Міколы Ермаловіча?*

-- Па-першае, у гістарычнай навуцы цяжка гаварыць аб "аднадумцах". Далей, навуковая дзейнасць усіх, у тым ліку, як вы кажаце, і "шырока вядомых навуковаму свету", падлягае сумненню. Гэта бясспрэчна. У адносінах да прац Міколы Ермаловіча я асабіста выказаўся ў друку. Зараз магу ўдакладніць: можна схіліць галаву перад тым, што зрабіў гэты даследчык, якія цяжкасці пераадолеў. Ён выклаў свае думкі, свае погляды на "летапісную Літву", стварэнне "беларуска-літоўскай" дзяржавы і іншыя праблемы, заняў адпаведную нішу ў беларускай гістарыяграфіі, як і многія іншыя гісторыкі. Але ж і ў яго даследаваннях не ўсё бясспрэчнае.

*-- Ці сведчаць апошнія змены пра тое, што вяртаюцца ранейшыя, савецкага перыяду, трактоўкі і ацэнкі многіх ключавых гістарычных падзей, такіх, як утварэнне БНР, Слуцкае паўстанне, ужыванне гістарычнай сімволікі? Як вы наогул ставіцеся да пашыранага пры савецкай уладзе пошуку ворагаў нават у гісторыі -- сярод гістарычных дзеячаў, у ацэнцы падзей і з'яў?*

-- Прабачце, зноў "клубок" пытанняў. Не разумею, аб якіх "апошніх зменах" ідзе размова? У адносінах да мяне? Адкажу, што і мяне, і многіх іншых гісторыкаў, і навукоўцаў, і выкладчыкаў, прычым і сярэдняй школы, спачатку ашаламіў той шквал дэзінфармацыі і фальсіфікацыі нашай айчыннай гісторыі, які абрушыўся на чытачоў у выніку "новых падыходаў". Многія гісторыкі і шырокія колы грамадскасці, у тым ліку рэспубліканскае аб'яднанне "Гістарычныя веды", пачалі выказваць нязгоду з такім становішчам. Гэта не вяртанне назад, а абарона лепшых здабыткаў, якія назапашаны і дарэвалюцыйнай, і савецкай гістарыяграфіяй.

Па канкрэтных праблемах, напрыклад, БНР, савецкую гістарыяграфію нельга назваць станоўчай. Гэта праблема, па сутнасці, не атрымала навуковага асвятлення. Цяпер зроблена многа карыснага. Я, напрыклад, лічу, што БНР была абвешчана, а не ўтворана (створана), як вы кажаце. БНР дзяржавай не стала. Яна не мела мясцовых органаў улады, войска, паліцыі, фінансава-грашовай, падатковай, мытнай і іншых сістэм, без якіх дзяржавы не існуюць. Больш падрабязна гэта праблема абгрунтавана мною ў апублікаваных артыкулах. Аб Слуцкім паўстанні. Пакуль што па інерцыі захоўваецца вера ў гэта "паўстанне", якога па сутнасці не было. Таму што ў той час Савецкая ўлада ў Слуцку яшчэ не ўсталявалася. Карыстаючыся гэтым, антысавецкі настроеныя сілы абвясцілі сваю міні-дзяржаву -- Беларускую раду Случчыны, базу для рэанімацыі БНР. А паколькі супраць БНР выступалі і БССР, і РСФСР, і УССР, і Польшча, то падзеі ў Слуцку "сканалі" без узброенай барацьбы з Чырвонай Арміяй і Савецкай уладай.

Аб ворагах народа. Як гісторык, я ведаю, што такія ворагі заўсёды былі, ёсць і будуць. То ў форме ерэтыкоў, то інквізітараў, то рэвалюцыянераў, то каралёў-цароў, то бальшавікоў-камуністаў, то дэмакратаў-касмапалітаў і г.д. Вы ведаеце, што пасля майскага рэферэндуму 1995 года па пытаннях надання рускай мове статуса дзяржаўнай і адносін да Расіі некаторыя шчыра ўлюбёныя ў беларускі народ дзеячы і нават вучоныя аб'явілі "дурным" гэты свой любы народ. Мабыць упершыню ў сусветнай гісторыі ў разрад ворагаў быў залічаны народ.

Дзяржаўная сімволіка ў нашай гісторыі была розная. Я выступаў супраць надання "Пагоні" і бел-чырвона-беламу сцягу дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. Таму што ў гады Вялікай Айчыннай вайны гэта сімволіка знаходзілася побач з фашысцкай свастыкай, а яе носьбіты здзяйснялі свае чорныя справы.

*-- Калі прэтэндаваць на магістральнасць накірунку, нельга абысціся без падмацавання маладымі кадрамі. Ці ёсць у вас такі рэзерв?*

-- Я не камандуючы, каб мець рэзерв. у свой час, калі я быў дырэктарам Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, было нямала зроблена па падрыхтоўцы вучоных-гісторыкаў. Многія вядомыя цяпер гісторыкі малодшага пакалення (у параўнанні з маім) прайшлі праз "мае" рукі. Таму мой "рэзерв" -- усе добрасумленныя вучоныя, якія не кінуліся "крамсаць" нашу гісторыю, не сталі таптаць у гразь савецкую рэчаіснасць і некаторыя лёсавызначальныя напрамкі гістарычнай спадчыны нашага народа. Я неаднаразова выступаў, у тым ліку і ў друку, супраць памылковых метадалагічных "установак" кіраўніцтва Інстытута гісторыі АНБ, якія прыводзяць да скажэнняў і фальсіфікацый нашай гісторыі. Скажыце, ці ж нармальна, што Інстытут гісторыі як дзяржаўная ўстанова ўвесь час закладвае міну пад дзяржаўную палітыку Рэспублікі Беларусь, перш за ўсё ў адносінах да Расіі? У якой "фірме" магчыма такое? Такая сітуацыя не на карысць гістарычнай навуцы і нашай дзяржаве.

**АД РЭДАКЦЫІ. Добра разумеючы сур'ёзнасць і складанасць таго становішча, што складваецца ў беларускай гістарыяграфіі, газета гатова прадаставіць слова і іншым удзельнікам дыскусіі.**

## МАЙСТАР З ДВОРЧЫНА, ЯКІ СТВАРЫЎ АЛТАР



**Майстэрня Антона Мацкевіча напоўнена даўкім пахам стружкі, змешаным з пахам клею, лаку і яшчэ нечага, чым звычайна пахне ў сталярнай майстэрні. Глядзіш на моцна збітага, каржакаватага майстра, і такое ўражанне, што дрэва надало яму моцы і сілы -- і час яго не бярэ. У свае семдзесят пяць Антон Аўгуставіч рухавы, энергічны, без працы мінуты не сядзіць. І няма такога вырабу з дрэва, якое не змог бы зрабіць Антон Аўгуставіч. Налічнікі, фрызы, мэбля ад "рэтра" да сучасных стыляў. А таму ведаюць аб яго майстэрстве не толькі ў роднай вёсцы Дворчын Браслаўскага раёна, але і ў многіх блізкіх і далёкіх вёсках ды мястэчках. За любы заказ бярэцца майстар, нікому не адмаўляе. І людзі ўдзячныя яму, бо цешыць вока і сэрца ўсё, да чаго дакрануліся рукі майстра.**

**Але ёсць у Антона Аўгуставіча асаблівы "аб'ект", дзе яго талент і любоў да справы адлюстраваліся ў цэлым комплексе унікальных кампазіцый. Гэта яго любоўю да Бога, фантазіяй, удумлівасцю і рукамі майстра створаны непаўторныя разныя алтары, спавядальні -- ды ўсё ў касцёле святога Якуба ў вёсцы Мілюны.**

**НА ЗДЫМКАХ:** майстар Антон **МАЦКЕВІЧ**; разны алтар у касцёле святога Якуба ў вёсцы Мілюны.

Яўген **КАЗЮЛЯ**.



## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# АХВЯРАВАЎ САБОЙ ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСІ

Напрыканцы траўня беларусы Вільні ўрачыста адзначылі 115-я ўгодкі з дня нараджэння Івана Луцкевіча, імя якога доўгі час было забаронена. Пра жыццёвы шлях Івана Луцкевіча расказаў гісторык С.Вітушка, былі прачытаны ўрыўкі з кнігі Юманы Вітант-Дубейкаўскай "Мае ўспаміны".

Нарадзіўся Іван Луцкевіч у Шаўлях Ковенскай губерні, дзе бацька быў на службе. У 1895 годзе сям'я Луцкевічаў перабралася жыць у родную Беларусь -- у Мінск. Скончыўшы гімназію ў Мінску, Іван едзе вучыцца ў Пецярбургскі універсітэт на юрыдычны факультэт, адначасова паступае на археалагічны факультэт. У Пецярбургу заўсёды было шмат студэнтаў з Беларусі, тут адкрываецца новае поле для працы на карысць Бацькаўшчыны. У 1903 годзе І.Луцкевіч стварае палітычную арганізацыю "Беларуская рэвалюцыйная грамада" і выдавецтва аднаднеўкі "Калядная пісанка", збірае і падрыхтоўвае да друку пасмертную спадчыну Янкі Лучыны, вышуквае старыя беларускія творы, якія ходзяць між людзьмі ў рукапісах. Ва ўсёй працы верным памочнікам у яго быў малодшы брат Антон Луцкевіч.

У 1904 годзе Іван заканчвае археалагічны інстытут і атрымлівае камандзіроўку дзеля навуковых доследаў у Беларусь і для далейшай навукі ў Вену. У 1904 годзе ён едзе ў Вену, там працуе ва універсітэце, знаёміцца з украінскімі дзеячамі і там жа друкуе сваю першую працу аб беларускай справе. Вяртаючыся з Вены, ён заязджае ў Львоў, дзе бліжэй знаёміцца з украінцамі. У Львове, Кракаве, Варшаве знаёміцца з вучонымі-гісторыкамі, археолагамі. Рэвалюцыя ў Расіі 1905 года адбілася і на агульным кірунку ў беларускай працы. У 1906 годзе ў Мінску адбыўся замах на губернатара горада, арганізаваны сёстрамі Ізмійлавічанкамі. Гэтая падзея скампраметавала кватэру Луцкевічаў, з якой была звязана рэвалюцыйная барацьба ў Мінску. Гэта і прымусіла братоў Луцкевічаў перайсці на нелегальнае становішча. Яны пераязджаюць у Вільню, там яшчэ некалькі гадоў жывуць нелегальна.

Вільня -- гэта пачатак новай эпохі не толькі ў беларускім руху, але і ў жыцці Івана Луцкевіча. У Вільні ўжо згуртавалася жменька беларускіх дзеячаў на чале з Алаізай Пашкевіч. Тут, у Вільні, Іван Луцкевіч актыўна заняўся работай на ніве беларускага адраджэння, чытаў лекцыі. Ён аднавіў беларускі друк у Вільні, які існаваў з 1865 года і быў скасаваны ў 1905 годзе. 1 верасня 1906 года выйшла беларуская газета "Наша доля", потым штотыднёвік -- "Наша ніва". З пераездам Луцкевічаў Вільня становіцца цэнтрам беларускага руху. У 1915 годзе ў Вільні адкрываецца першая беларуская пачатковая школа, а ў 1916-м іх было ўжо 6. Стараннямі І.Луцкевіча адкрыліся настаўніцкія курсы, дзе ён выкладаў гісторыю роднага краю. Справамі школьнымі, эканамічнымі ў Вільні тады кіраваў Беларускі камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, адным з найбольш актыўных работнікаў быў Іван Луцкевіч. У гэты час ён арганізуе Сацыял-Дэмакратычную Работніцкую Групу, задумвае ўтварыць законспіраваны "Беларускі Народны Камітэт" як галоўны палітычны цэнтр і вельмі энергічна працуе як член яго. Збірае розныя рэчы старасветчыны, ладзіць дзве выставы, адну ў Вільні, другую ў Мінску. Іван Луцкевіч быў адным з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 24--25 сакавіка 1918 года. У 1919 годзе адкрываецца беларуская гімназія ў Вільні ў Базыльянскіх мурах, арганізаваная Іванам Луцкевічам. Ён ужо не мае сіл хадзіць на лекцыі ў гімназію, бо цяжка хворы.

На вуліцы Віленскай, 33, дзе жыў Іван Луцкевіч, было заўсёды поўна гасцей. Сюды ішоў кожны беларус не толькі Вільні, але і прыезджыя, каб пагаманіць аб справах.

"Мова яго была жывая і літаратурная, прыгожая беларуская мова; яго ідэалогія -- народная, сялянская ідэалогія. Яго мова захоплівае, дасць веру і надзею, будзіць паснулыя сілы", -- так успамінае М.Гарэцкі.

Калі з'явілася магчымасць вывезці хворага ў Закапанэ -- у горы, здароўе яго было ўжо зусім безнадзейным. Памёр Іван Луцкевіч 20 жніўня 1919 года.

У 1991 годзе прах ягоны перавезены ў Вільню на могілкі Росы. Пасля смерці Івана Луцкевіча ў Вільні адкрыўся беларускі музей старажытных рэчаў, якія ён і сабраў.

Пражыў Іван Луцкевіч вельмі кароткае жыццё -- усяго 38 гадоў. Колькі ён паспеў зрабіць для гісторыі і будучых пакаленняў і колькі мог бы яшчэ зрабіць пры даўжэйшым жыцці... Ён жыў у эпоху магутнага беларускага ўздыму і быў творцам беларускага руху. Іван Луцкевіч быў незвычайна таленавіты чалавек. Усё здароўе, сілы і нават асабістае шчасце аддаў Бацькаўшчыне і народу. Беларускае нацыянальнае адраджэнне ў Вільні на пачатку XX стагоддзя -- гэта гісторыя жыцця Івана Луцкевіча.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г.Вільнюс.

## ПАСЛЯ ПАДАРОЖЖА Ў АЎСТРАЛІЮ

# ПЕРАСЫХАЕ КРЫНІЧКА БЕЛАРУСКАСЦІ

Падчас святкавання ў Беларускім доме мы звярнулі ўвагу на сівога чалавека, які прыйшоў разам з двума сынамі. Аказалася, што гэта шчыры беларус і паэт Сымон Шаўцоў, вершы якога друкаваліся і ў Беларусі. Сп. Шаўцоў і яго сыны вельмі занепакоены тым, што на святкаванне прыходзіць мала беларускай моладзі.

Спаткаліся са сп. Алесем Алехнікам. Мелі прыемнае знаёмства са сп. Гавенчыкам. Васіль Марчанка сустрэў нас як гасцінны гаспадар Беларускага дому. У рускай царкве, якую наведваюць многія беларусы ў Сіднеі, царкоўным хорам кіруе сп. Падгайскі, а яго шаноўная жонка апякуецца многімі царкоўнымі справамі. Памятаем добра пра знаёмства з імі.

Беларускі асяродак у Сіднеі трымаецца дзякуючы клопатам многіх людзей, з некаторымі мы сустракаліся толькі падчас святкавання ці іншых кароткіх сустрэч, але ў нас застаўся добры ўспамін і пра Уладзіміра і Вольгу Русакоў, Міхася Ціхана, Уладзіміра Плаходнага, Шкоду, Хаванскую Акуліну, Вольгу і Сцяпана Тамашэўскіх, К.Алехну і многіх іншых.

У дні Велікодных святаў мы былі запрошаны ў госці да сп. Лесуна і яго жонкі Веры, паходжаннем з Македоніі. Вера паказала сябе надзвычай гасціннаю і ўмелай гаспадыняю: на стале было мноства страваў, якімі ўвесь час стараўся частаваць нас сам гаспадар. У яго набягалі слёзы, калі ён успамінаў ці слухаў нешта пра Бацькаўшчыну.



НА ЗДЫМКУ: Беларуская царква ў Мельбурне.

Нашы суродзічы захоўваюць у сваіх дамах нацыянальны побыт, які добра спалучаецца і са здабыткамі цывілізацыі. Асабліва гэта датычыцца страваў. Шануюць і часта спажываюць бульбу, у спадароў Корбутаў мы ласаваліся смачнымі дранікамі. Амаль усе вырошчваюць свае агуркі і памідоры на невялічкіх агародчыках пры сядзібе, квасяць капусту, соляць і марынуюць грыбы. Беларусы найбольш паважаюць рыжыкі, якія ведаюць з дзяцінства, бо астатнія грыбы -- ужо толькі аўстралійскія.

Хутка прайшоў час, адведзены нам для знаёмства з Сіднеем. І зноў сумнае развітанне ў аэрапорце. Нас праводзяць спадары Лужынскі, Бакуновіч, прыйшоў і Слава Елкановіч. Развіталіся вельмі цёпла, прывыклі, пасябравалі з імі. Запрасілі ўсіх да сябе, у Беларусь.

Паездка ў Аўстралію сталася для мяне надзвычай цікавай і была патрэбнай. Было вельмі важна сваімі вачыма ўбачыць набыткі аўстралійскіх беларусаў у арганізацыі свайго нацыянальна-культурнага жыцця. Гэта была асноўная мэта візіту, бо праца ў ЗБС "Бацькаўшчына" патрабуе дакладнага ведання сітуацыі ў беларускім замежжы, а тым больш у такім далёкім. Прызнацца, не ўяўляла раней, што так многа там зроблена, што беларуская прысутнасць у Аўстраліі замацавалася даволі трывала. І гэта без усялякай дапамогі з радзімы, уласнымі сіламі і ўласнымі сродкамі. Такой высокай адданасці беларускай справе мы можам сёння толькі павучыцца ў нашых замежных суродзічаў. Я думаю, прыйдзе час, мусіць прыйсці, калі ў самой Беларусі будзе належным чынам ацэнена самаахвярнасць пасляваеннай беларускай эміграцыі, якая на чужыне цяжкай працай адбудавала беларускія дамы і цэрквы -- астраўкі нашай прысутнасці ў свеце, тым самым паказала і іншым народам, што ёсць беларуская нацыя, нічым не горшая за іншыя. Гэтае пакаленне беларусаў на чужыне зрабіла сваю вялікую справу. Але і час зрабіў сваё. Многіх ужо няма. Іншыя працуюць і зараз самаахвярна, але сілы ўжо не тыя, а дапамогі няма. Дзеці ў большасці асіміляваліся, не маюць цягі да беларускага жыцця, яно для іх ужо чужое. І гэта натуральны працэс. Пусцеюць беларускія асяродкі, сірацеюць дамы і клубы, усё менш людзей у цэрквах. Крынічка беларускасці перасыхае. Баліць маё сэрца за ўсё гэта. Я бачыла, я ведаю, як многа працы ўкладзена. Няўжо ўсё павінна загінуць? Няўжо сённяшняй Беларусі не патрэбна гэта? Я была ў многіх краінах, я бачыла, як паводзяць сябе іншыя народы, як стараюцца падтрымаць сваю прысутнасць, як яднаюцца паміж сабою, як падтрымліваюць іх свае краіны.

Беларускія асяродкі ў замежжы істотна маглі б падтрымаць дапамога Беларусі і прыток новай эміграцыі. Новая эміграцыя ёсць і ў Аўстраліі, але яна невялікая і пакуль што займаецца сваімі жыццёвымі справамі. Па ўсім відаць, што сённяшняя Беларусь, як і раней, не будзе абцяжарваць сябе такімі клопатамі. Мусім хоць грамадскімі сіламі старацца захаваць беларускую прысутнасць у замежжы, бо менавіта, дзякуючы ёй, нам становяцца блізкімі і такія далёкія краіны, як Аўстралія.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня**
**Згуртавання беларусаў свету**
**"Бацькаўшчына".**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у NN 27--28.**

# АД ІМЯ НАВАГРАДЦАЎ

У сталічным Доме літаратара адбылося чарговае пасяджэнне рады Згуртавання навагрaдцаў свету. На ім старшыня рады Яўген Лецка пазнаёміў прысутных са зместам ліста-звароту да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага. Як вядома, Сямён Шарэцкі паходзіць таксама з Наваградчыны і нават уваходзіць у згуртаванне. Менавіта таму і вырашыў спадар Лецка выказаць сваю занепакоенасць становішчам у Беларусі і імкнецца прыцягнуць увагу высокапастаўленага земляка да занядбанасці беларускай справы. На шаснаццаці старонках ліста Вярхоўны Савет і яго Старшыню заклікаюць праводзіць дзяржаўную палітыку, накіраваную на замацаванне суверэнітэту, захаванне законнасці, "пашанотнае стаўленне да духоўнай спадчыны роднага народа, ягонай культуры, мовы, гісторыі, іншых нацыянальных каштоўнасцяў, а таксама дэмакратыі і яе агульначалавечых вартасцяў".

Навуковец Аляксей Каўка з Масквы вызначыў змест ліста як "сінтэзу беларускай бяды". Увогуле сябры рады пасля невялікіх заўваг ухвалілі ліст.

Адным з самых цікавых можна лічыць выступленне на пасяджэнні завуча СШ N 5 у Навагрудку, якая захавала статус беларускамоўнай. Відавочна, сёння не самы спрыяльны час для развіцця як беларускай мовы, так і школы. Тым больш заслугоўваюць увагі факты і звесткі, якія выклала настаўніца.

Зусім нечакана (а таму яшчэ больш прыемна) было пачуць, што ў гэтым годзе па гораду Навагрудку назіраецца тэндэнцыя павелічэння колькасці заяваў на навучанне дзяцей на беларускай мове. Ну а там, дзе калектыў настаўнікаў свядомы і стаіць за беларускасць, дык і наогул няма ніякіх праблем з агітацыяй бацькоў. У гэтым годзе пададзена ўжо 145 заяваў, з якіх толькі 1 з просьбай вучыцца па-руску.

Больш таго, сярод 30 школ па Беларусі, дзе праводзілася псіхалагічнае даследаванне глыбіні засваення матэрыялу, менавіта беларускамоўная СШ N 5 горада Навагрудка заняла першае месца. Адзінае, што пакуль турбуе аднолькава бацькоў, настаўнікаў і дзяцей, гэта недахоп добрых, прыгожа аздобленых падручнікаў, дапаможнікаў, слоўнікаў, іншых кніжак для дзяцей і моладзі.

Занепакоенасць яшчэ застаецца наконт пераемнасці навучання на беларускай мове. Дагэтуль у большасці ВНУ і сярэдніх навучальных установах дзяржавы выкладанне вядзецца на рускай мове.

Сябры рады Згуртавання навагрaдцаў свету абмеркавалі таксама дату правядзення свайго чарговага з'езда, які мусіць адбыцца ў наступным годзе. Усе прысутныя пагадзіліся з мэтазгоднасцю яго правядзення адначасова з II З'ездам беларусаў свету. Было вырашана звярнуцца да кіраўніцтва "Бацькаўшчыны", каб сумесна распрацаваць праграму, узгадніць дату і месца правядзення абодвух з'ездаў.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСАЎ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

нацыі -- яе мінуўшчыну, сучасны этап і будучыню: этнічная і нацыянальная самаідэнтыфікацыя народа; ягоны менталітэт; нацыянальная самасвядомасць і нацыянальная ідэя. Першыя два паняцці ўключаюць не толькі суб'ектыўную, свядомую тоеснасць чалавека з народам, этнасам, нацыяй, але і яго падсвядомыя вобразы, так званыя архетыпы, якія жывяць і нават праграмуюць этна-культурную арыентацыю і нацыянальную самасвядомасць. Урэшце, паняцце нацыянальнай ідэі дакладна пазначае гістарычную місію нацыі, яе пасланніцтва ў сусвеце.

Тэма рэлігіі як духоўнага фактара нацыянальнай самасвядомасці доўгі час заставалася хутчэй прагматычнай і палітычнай, чым тэарэтычнай праблемай. На ўзроўні філасофскай рэфлексіі ў СССР рэлігія прызнавалася этапам развіцця сусветнай культуры ў дыялектыка-матэрыялістычнай метадалогіі, але гэта быў хутчэй "гегелеўскі субстрат" савецкай філасофіі, а не яе самастойная пазіцыя. Ядром марксісцкага рэлігіязнаўства быў так званы "навуковы атэізм", які адмаўляў духоўнатворчую функцыю рэлігіі, асабліва хрысціянства. Паводле Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, выдадзенай у апошнія гады бальшавіцкай улады, рэлігія -- гэта "скажонае фантастычнае адлюстраванне ў свядомасці людзей пануючых над імі прыродных і грамадскіх сіл". Таму, сцвярджаецца ў артыкуле "Рэлігія", Камуністычная партыя "вядзе ідэйную барацьбу супраць рэлігійных вераванняў і "цемрашальства" як перажытка "мінулых гістарычных эпох". Аўтар артыкула аб рэлігіі Г.Ліўшыц сцвярджаў, быццам мэта сусветных рэлігіяў -- "прымірыць чалавека з ладам прыгнёту і няроўнасці", таму "ў СССР і іншых сацыялістычных краінах падарваны сацыяльныя карані хрысціянства".

Паварот да аб'ектыўнай ацэнкі ролі хрысціянства ў культуры адлюстраваўся ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, дзе адзначаецца гуманістычная місія хрысціянства і яго дабратворны ўплыў на станаўленне нацыянальнага мастацтва. Важнае месца праблемы рэлігіі і культуры занялі на чатырох міжнародных навуковых канферэнцыях (1991--1994) пад назвай "Рым: I--V", прысвечаных нацыянальным і рэгіянальным культурам (культурнаму памежжу) Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Далейшая канкрэтызацыя гэтай тэматыкі адбылася на міжнародных канферэнцыях, прысвечаных рэлігійнай і нацыянальнай тоеснасці і арганізаваных у 1991--1993 гадах польскім Інстытутам Цэнтральна-Усходняй Еўропы (Люблін) па ініцыятыве дырэктара гэтай установы прафесара Ежы Клачоўскага. Урэшце, Польская акадэмія навук падрыхтавала навуковую канферэнцыю "Праваслаўе ў Рэчы Паспалітай і каталіцызм у Расійскай імперыі" (1994).

У Беларусі праблема рэлігіі і этна-культурнай самаідэнтыфікацыі мае сваю даўнюю традыцыю, якая пачынаецца бадай што з Кірылы Тураўскага (XII стагоддзе), пазней развівалася Францішкам Скарынаю, іншымі асветнікамі XVI--XVII стагоддзяў. Як сацыяльна-палітычная і духоўная праблема развіцця нацыянальнай самасвядомасці яна пастаўлена беларускімі адраджэнцамі другой паловы XIX -- першай чвэрці XX стагоддзяў. Кастусь Каліноўскі быў першым, хто назваў уніяцтва беларускай царквою і ў сваёй "Мужыцкай праўдзе" заклікаў беларускіх сялян вярнуцца да гэтай, паводле яго слоў, веры нашых дзядоў і прадзедаў, якую адабраў ад нас маскоўскі цар, падкупіўшы "многіх папоў" і загубіўшы праз гэтую гвалтоўную акцыю наш народ перад Богам і людзьмі. Ягоны паслядоўнік паэт Францішак Багушэвіч напісаў верш-гратэск "Хрэсьбіны Мацюка": пра тое, як расійскі царызм казацкімі нагайкамі перахрышчваў тутэйшых каталікоў у "рускіх праваслаўных".

Гэты пафас беларусізацыі хрысціянства, ужо даўно "ўпісанага" ў кантэкст іншых культур суседніх народаў (расійскага, польскага, літоўскага, чэшскага), яксрава выявіўся ў "нашаніўскую" эпоху станаўлення беларускай класічнай літаратуры (1906-1915). У "Нашай ніве" выявіліся дзве плыні дачынення беларускага нацыянальнага руху да хрысціянства -- спецыфічны беларускі сацыялізм ліберальна-дэмакратычнага кірунку, які прадстаўлялі браты Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў ды іншыя нашаніўцы, і спецыфічны ж беларускі фундаменталізм Вацлава Ластоўскага, да якога далучаліся -- кожны па-свойму -- Сяргей Палуян, Лявон Гмырак і які паўплываў на светапогляд Янкі Купалы 1910--1920 гадоў. Памяркоўны антыклерыкалізм беларускіх сацыялістаў гуманістычнага кірунку, іх асветніцкі погляд на чыста функцыянальнае прызначэнне царквы звужалі іх прагнастычнае поле зроку, а часам вярталі на пазіцыі утапізму. Затое прынцыповы эвалюцыянізм, непрыманне гвалтоўных рэвалюцыяў, акцэнт на духоўным прагрэсе грамадства збліжалі іх з хрысціянскім дэмакратызмам.

На думку В.Ластоўскага, для ўтварэння нацыянальнай дзяржавы народу патрэбна мець пачуццё свайго гістарычнага пасланніцтва ў форме пашырэння самабытнага веравызнання, агульналюдской альбо нацыянальнай ідэі. Старая Беларусь, альбо Вялікая Крывія, сцвярджаў гэты першы нацыянальны гісторык, мела самабытную паганскую веру, якая дазваляла сцвярджаць сваю сістэму каштоўнасцяў. Але пасля прыняцця хрысціянства нам не ўдалася ні нацыяналізацыя праваслаўя альбо каталіцызму, ні уніяцтва, насаджанае чужымі рукамі; што яшчэ горш, у нас "не было волі знайсці сваю рэлігійную індывідуальнасць". З гэтай песімістычнай, занадта катэгарычнай, пагэтаму недакладнай пасылкі В.Ластоўскі рабіў усё ж правільную выснову: місія беларусаў у тым, каб, абапіраючыся на свае гістарычныя традыцыі, аб'ядначь народ, стварыць новыя культурныя каштоўнасці. "Мы, -- пісаў Ластоўскі, -- павінны знайсці саміх сябе ў кожнай дзедзіне духоўнай і матэрыяльнай творчасці, у сацыяльным укладзе, у рэлігіі і мастацтве. І на гэтыя шуканні прабіў ужо вялікі час".

У артыкуле "Унія" Ластоўскі схіляўся да больш памяркоўнай ацэнкі гэтай трагічнай з'явы ў гісторыі беларускай царквы: "Унія, -- пісаў ён, -- як абрадак сярэдні паміж скрысталізаванымі праваслаўем і каталіцызмам магла стацца нацыянальным абрадкам толькі тады, калі б была абрадам дзяржаўным, са сваёй уласнай іерархіяй, народнай мовай у літургіі і пры варунку прыналежнасці да яе ўсіх кляс грамадзянства".

Тут адчуваецца ўплыў двух заходнебеларускіх прарокаў нацыянальнага адраджэння -- Ігната Абдзіраловіча і Сулімы (Уладзіміра Самойлы), якія ў пачатку 20-х гадоў выступілі з праграмнымі філасофска-этычнымі творамі, дзе ёсць цвярозы аналіз аднабаковасці "усходніх" ды "заходніх" сацыя-культурных арыентацый і заклік да тварэння самабытных беларускіх грамадска-палітычных і духоўных каштоўнасцяў.

Культурна-гістарычную місію хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў з пазіцый беларускага адраджэнца і царкоўнага дзеяча ўпершыню паспрабаваў раскрыць ксёндз Адам Станкевіч у артыкулах і манаграфіі "Хрысціянства і беларускі народ: спроба сінтэзы" (1940). На думку аўтара, беларуская народная душа ўзгадавалася "пад подыхам хрысціянскай рэлігіі і этыкі", а пазней, калі народ наш вырас у асобную нацыю і стварыў самабытную мову, "хрысціянства заўсёды гэтую мову падтрымлівала і развівала". У адступленні царквы ад традыцыяў беларускай культуры вінавата не хрысціянства, а палітыка, якая заўсёды імкнулася выкарыстаць царкву ў сваіх гістарычна абмежаваных мэтах і недальнавідных імкненнях. Не замоўчваючы негатыўных наступстваў дзейнасці палітызаванай царквы розных канфесіяў, А.Станкевіч усё ж прыйшоў да высновы, што хрысціянства "ёсць апорай правоў чалавека, правоў на самабытнае існаванне ўсіх народаў, апорай іх уласнай культуры і праўдзівага поступу".

Нарысы А.Станкевіча, здаецца, былі апошнім даследаваннем значэння хрысціянскай царквы ў гісторыі Беларусі ў духоўна-этычным плане sub specie aeternitatis (у полі зроку вечнасці). У апошняе паўстагоддзя свецкая навука і публіцыстыка разглядала праблемы царкоўнага жыцця пераважна з прагматычных і палітычных пазіцыяў, бачыла ў ёй скарэй функцыю ў сістэмах нацыянальных дзяржаваў і культур, чым звышэмпірычнае быццё духу. У сваю чаргу, дзеячы царквы, як правіла, абмяжоўваліся апалогіяй сваёй канфесіі і рэдка падніваліся да аб'ектыўнага навуковага аналізу. Апошнім часам праблемаю рэлігіі ў гісторыі беларускай нацыянальнай культуры зацікавілася літаратурная журналістыка, пра што сведчаць публікаці ў часопісе "Неман".

***

Рэлігія, родная мова і генетычна звязаная з імі міфалогія -- гэта не толькі кампаненты нацыянальнай культуры, але і крыніца фарміравання архетыпаў нацыянальнага менталітэту як этна-псіхічнай асновы нацыянальнай самасвядомасці. На раннім этапе этнагенезу беларусаў (VI--X стагоддзі) іх этнічная самаідэнтыфікацыя выявілася ў вобразах язычніцкай рэлігіі і звязанай з ёю "ніжэйшай" (народнай) міфалогіі. Даследуючы язычніцкі пантэон беларусаў і этнічных літоўцаў, набор сюжэтаў і вобразаў іх аўтэнтычнай міфалогіі, нельга не звярнуць увагу на тыпалагічную блізкасць гэтых пластоў культуры. Такое збліжэнне, часам аж да тоеснасці, -- вынік не толькі ўзаемаўплываў іх культур у рамках агульнай дзяржавы -- Вялікага Княства Літоўскага, але і генетычных вытокаў. На думку расійскіх (В.Сядоў) і беларускіх (Мікола Ермаловіч) даследчыкаў, продкамі беларусаў былі не толькі славянскія плямёны, але таксама балты і яцвягі, якія жылі тут задоўга да славянскага засялення.

Генетычны дуалізм нашага народа стаўся важным чыннікам, які ў пэўнай ступені прадвызначыў яго гістарычны лёс, паўплываў на яго этнічную, рэлігійную і нацыянальную самасвядомасць, выявіўся ў варыянтнасці іх саманазвы -- літвіны, русіны, рускія, беларусы. Этнонім "рускі" і саманазва праваслаўных "руская вера" не мае этнагенетычных карэнняў у Беларусі, яны прывіліся звонку ад варажскага племені русаў, ваенныя атрады якіх былі заклікаены славянамі ў якасці наёмных дружынаў.

Спецыфічны беларускі культурны феномен -- жанравае багацце і духоўная глыбіня фальклору, які выявіў этнічную, а пазней і нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Тут, відаць, паспрыяла беларуская "танальнасць" хрышчэння гэтага рэгіёна. У адрозненне ад прымусовага, "рэвалюцыйнага" хрышчэння Кіеўскага княства, на вялікіх абшарах крывічоў і летапіснай Літвы (яны склалі ядро Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага) далучэнне народа да новай рэлігіі адбывалася паступова і, мабыць, за выключэннем лакальных канфліктаў, шляхам мірнай канвергенцыі. Апеты ў гераічнай паэме "Слово о полку Игореве" полацкі князь Усяслаў (княжыў у 1044--1101 гадах) -- прататыпны вобраз беларускага гістарычнага лёсу -- увасабляў гэты старадаўні рэлігійны сінтэз: будаўнік Полацкага Сафійскага сабора, кіеўскі князь у 1068 годзе па волі народа і Кіева-Пячорскага манастыра, ён тады ж набыў славу паганскага вешчуна ды прозвішча Чарадзея.

Вось такая "сустрэча" нерастрачаных сіл маладога славяна-беларускага этнасу з хрысціянскай духоўнасцю мела сваімі вынікамі не толькі канфлікты, але таксама інтэнсіўную творчасць. Адбывалася асіміляцыя народнай міфалогіі новай рэлігіяй. Гэтыя працэсы паспрыялі развіццю фальклору, які на працягу X -- пачатку XX стагоддзяў сфармаваў архетыпы этнічнай, а пазней і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, моцна паўплываў на іх менталітэт.

Язычніцкая рэлігія ў яе адносінах да хрысціянства звычайна разглядаецца ў аспекце апазіцыі паміж імі. Між тым у даследаванні дахрысціянскай эпохі нашай духоўнай гісторыі неабходна адрозніваць старадаўнюю, народна-мастацкую рэлігійную свядомасць і сённяшняе язычніцтва "цывілізаванае", якое грунтуецца на самаабагаўленні чалавека і пакланенні "мамоне". Стараславянскае "паганства" не мела выразнага ўяўлення пра Бога як Стваральніка свету і Апекуна жыцця. Але яно было напоўнена верай у Боскае тварэнне, у быццё, космас, у яго жыццёвасць, красу і самакаштоўнасць. У гэтым "вітаісцкім аптымізме" -- пазітыўны, культурны сэнс старадаўняй язычніцкай рэлігіі, ён заслугоўвае не пустога адмаўлення, а дыялектычнага "зняцця" і захавання язычніцкай творчасці ў хрысціянскай свядомасці і культурнай традыцыі. Абстрактны тэацэнтрызм сярэднявечнага хрысціянства, які нярэдка адмаўляў духоўную сутнасць космасу, вырадзіўся спачатку ў павярхоўны гуманізм і гомацэнтрызм, а зрэшты ў сучасны прагматызм, які бачыць у прыродзе толькі сродак, а не самамэту. У выніку гэткай "гуманізацыі" чалавек забыў сваю высокую місію: з руплівага гаспадара, "добрага пастыра" і духоўнага пераўтваральніка быцця ператварыўся ў жорсткага спажыўца творчых сіл прыроды і грамадства.

Сёння патрэбны універсальны сінтэз усіх рэлігійна-духоўных адкрыццяў чалавецтва, у якім знойдзе сваё месца і старадаўняе ўслаўленне сваё спрадвечнае жыццядайнае Маці-Прыроды. Выхаванню грамадскай экалагічнай свядомасці пасадзейнічае вывучэнне і ў пэўным сэнсе "рэстаўрацыя" народнай міфалогіі і аўтэнтычнага фальклору.

Праведзены мною параўнальны аналіз рэцэпцыі біблейскіх вобразаў, сюжэтаў і матываў ды хрысціянскай рэлігійнай традыцыі наогул у фальклоры і прафесійным мастацтве засведчыў: беларуская народная творчасць у эпохі станаўлення народнасці і нацыі ў значнай ступені "фальклярызавала" Біблію і часткова царкоўную літаратуру ды хрысціянскую традыцыю і такім чынам увяла іх у кантэкст народнай самасвядомасці. Паводле гэтых крытэрыяў, фальклор усё яшчэ багацейшы за прафесійную мастацкую культуру, бо гэтая апошняя, у тым ліку яе найбольш развітая частка -- класічная літаратура развівалася ў неспрыяльных умовах, адносна кароткі перыяд і, відавочна, не паспела творча пераасэнсаваць хрысціянскае Пісанне і царкоўнае Паданне -- невычэрпнае мора архетыпаў сусветнай культуры. Гэткі "беларускі феномен", які, здаецца, не характэрны для іншых еўрапейскіх краін, сведчыць, што нашая трыдыцыйная народная культура была і сёння застаецца важным фактарам развіцця нацыянальнай самасвядомасці і ўключэння нацыянальнай культуры ў культуру сусветную. З другога боку, без творчага засваення гэтай апошняй, у тым ліку ўсёй шматграннай царкоўна-хрысціянскай традыцыі, немагчыма "нацыяналізацыя" царквы і падключэнне сусветнай культуры ў кантэкст культурнага развіцця асобных нацыяў, вялікіх і малых рэгіёнаў.

**Уладзімір КОНАН.**

**(Працяг будзе).**

# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."

## (ПІСЬМЫ У. ДУБОЎКІ ЖОНЦЫ І БЛІЗКІМ СА СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ І ЭТАПАЎ)

*25 января 1938 года*

Дорогая Марылька!

Проехали 23 Красноярск и в настоящее время по пути к Иркутску. Сегодня случайно слыхал, что могут нас высадить за Иркутском на какой-то маленькой станции. Возможно, что оттуда еще куда направят пешком или каким иным путем. Во всяком случае это менее всего важно. Погода стоит исключительно благоприятная, почти всю дорогу едем при температуре много выше нуля. Пробую написать тебе письмо, учитывая то, что из лагеря будут разрешать посылку ограниченного числа писем, да и размер их не может быть большим. Я уже писал тебе, дорогая, если попали к тебе мои письма, что самая главная моя забота о тебе и сыне. Именно потому забота, что ты оказалась, благодаря любезности головотяпов, без работы. Хочется сказать много, много, ибо я стою уже почти на пороге той обители, где, как у Данте, в его Аде, начертано -- "Оставь надежду всяк сюда входящий". Но поскольку я ограничен и бумагой, буду писать по пунктам и самым основным.

1. Если бы была возможность переехать тебе к месту жительства мамы, хотя бы на полгода — это было бы хорошо в том смысле, что ты смогла бы закончить Иняз. Квартиру, возможно, нашли бы у хороших знакомых, ибо на стариков рассчитывать не приходится.

2. В связи с последними веяниями (фельетон Кольцова, хотя я о нем только слыхал в бане в Красноярске, а сам не читал), возможно, что тебя не будут цковать в Чебоксарах. Поэтому, в зависимости от этого, можно рискнуть задержаться там некоторое время, пока не определится мое "место жительства". Это имеет значение лишь в том отношении, чтобы два раза не тратить скудные твои средства на переезды.

3. У жены Даниловича, едущего со мной, есть родня на пути между Красноярском и Иркутском. Возможно, что в какой-либо степени это пригодится тебе в дальнейшем. Равно -- узнай, как она предполагает -- оставаться в Чебоксарах или уезжать. Быть может, в дальнейшем пришлось бы ехать вам обеим вместе, а это имеет значение в пути.

4. Ты, возможно, уже обращалась, и безрезультатно, за моими рукописями, документами и книгами. В случае проезда через Москву, постарайся попасть лично на прием к Пред(седателю) Ком(ите)та по делам искусств (Керженцев) и поговорить с ним о моей судьбе. Можешь заверить его, что если в 1930 году можно было в какой-то степени говорить о каких-либо погрешностях в литературной работе, хотя основной причиной ареста была моя борьба против троцкистско-авербаховской группы в белор(усской) литературе, то во 1937 г. ничего подобного нет и не было. Формальное предварительное обвинение мне было предъявлено в том, что встречался с полит. высл. (...)* там агитировал их против сов(етской) власти и распространял антисоветские измышления. На следствии, наоборот, следователь выражал свое недоумение по поводу того, что я, человек культурный, уклонялся от бесед на политические темы. Никакого фактического (...)* не было предъявлено и обвинительного заключения. Приходится поэтому судить, что все это беззаконие в отношении меня является продолжением ранее проведенной несправедливости, подкрепленное карьеризмом отдельных чебоксарских пинкертонов и их покровителей. Если не сможешь попасть туда сама, попроси Тасю[1]. Я со своей стороны буду писать по инстанциям, но опыт прошлый говорит -- легче верблюд через игольное ушко пролезет, чем невинному человеку оправдаться.

Грошы маю. З паўсотні рублёў засталося на квітанцыі. Зусім здаровы. З гэтага боку не клапаціся.

**Уладзімір.**

Не удивляйся и не огорчайся, если не будет долго писем. В лагерях иногда их выпускают по норме, иногда лишают этого права. Плохо, если действительно нас не повезут в Хабаровск, как предполагали раньше. Дело в том, что там лучше обстоит дело с питанием, да и начальство почаще заглядывает. А тут могут загнать куда вроде Алатырской колонии, где даже ассенизатор изображает из себя высокого начальника по отношению к арестанту.

Вот, дорогая, пока и все. Буду очень рад, когда получу первую весточку от тебя, но это будет, очевидно, не скоро. Привет и горячий поцелуй Алику. Целую тебя, моя пакутница безвинная, мая милая, родная, адзіная Марылька. Жадаю ад усёй істоты сваёй, каб табе хоць крыху пашэнцила без мяне гадаваць сына. Усе силы далажу на тое, каб як дапамагчы табе. Моцна цалую цябе.

**Уладзімір.**

* Дакумент блага захаваўся. Тэкст не чытаецца.

[1] Сястра Уладзіміра Мікалаевіча.

*23 апреля 1938 г.*

Дорогие мама, Марилька и Алик!

Писал вам с дороги несколько писем. Напишите, получили ли вы их. Напишите подробнее о своей жизни. Я знаю, чувствую, что она горькая, но все же хочется знать подробно, что с вами, где вы. А то я все думаю, думаю, половина бороды от этих думок посивела. Напиши, как ты уехала из Чебоксар, как доехала. Если не устроишься там, где думаешь, куда направишься? Про себя мне особенно нечего писать. Работаю на общих работах. Начинают людей брать для работы по специальностям, возможно, что дойдет очередь и до меня. Вы спрашивали относительно посылки и адреса. Не знаю, чего вам и заказать, ибо трудно тебе самой. Смотри по своим средствам и возможностям. Вообще, мне нужны жиры. В посылку положи конвертов, бумаги, хим(ическ)ий) карандаш, ниток белых и черных, коробку из-под зубного порошка металлическую.

Адрес такой, как я указывал в письме, и повторю опять. Дело в том, что при переброске с колонны в колонну из отделения письма поступают без задержки по назначению. Вот почему был ли я на ст(анции) Бира в 7 колонне, нахожусь ли теперь в 13 кол(онне) в Биробиджане -- письма адресуй на 13 отделение Бамлага. Все з/к письма получают часто и аккуратно. Я с завистью смотрю на них, как они читают большие-пребольшие письма и получают известия о всех своих делах. Если даже перебросят в Улан-Удэ, как говорило начальство, письма не пропадут. Вот и все, мои гаротные, мои родные. Короче говоря, я только одного и желаю, чтобы ты с сыном получила кусок хлеба и притом не горького. Сам я все же надеюсь, что как человек абсолютно невинный перед своей родиной, я в конце концов буду освобожден до срока. Заявление я послал через начальство еще в марте месяце, но не знаю, где оно (на имя прокурора РСФСР). На всякий случай справлюсь там. Привет вам, мои дорогие. Ожидаю с нетерпением от вас письма. Целую вас крепко, крепко. Как ты учишься и учится ли Алик?

**Ваш Уладзімір.**

Из Чебоксар пишут жены з/к, что там восстанавливают на работе жен высланных, как незаконно уволенных, в частности, учительниц.

**Уладзімір.**

*21.9.39*

Дорогие родные!

Получил ваши письма, последнее от папы с уведомлением о высылке посылки. Пока что посылка не пришла. Сегодня послал заявление в Прокуратуру Чувашии с жалобой на неправильное осуждение меня, ибо от вас так толком и не узнал, подавали вы или нет заявление. Посылаю в этом письме карандашный набросок моего лица. Может быть и не дорисован он, но все же похож. Пишите, родные. Я живу, сыт, обут, одет. Белье дают новое, вот и на рисунке футболка новая, а за лето их износил штук 5–6.

Привет вам, целую вас всех крепко, крепко.

**Ваш Уладзімір.**

Уже вечером получил вашу посылку. Большое спасибо. Все в сохранности, только с одной стороны, от косточек, посивела грудинка. Я еще ее и не рассмотрел, но думаю, что потеря небольшая будет, так как запаху никакого нет. Деньги очень кстати, т.к. ровно сегодня кончил сахар, а премвознаграждение еще не получал за август, причтется же его рублей около тридцати, так что у меня опять деньги будут заходить за деньги. Привет, привет.

**Уладзімір.**

Оказывается, грудинка не испортилась, а с одного края только сверху посивела.

*27.X.39*

Дорогие родные!

Получил ваше долгожданное письмо, помеченное 26 сентябрем. Очень беспокоился о вас, т.к. от вас писем не было уже давно. Правда, в этом письме ничего радостного нет ни о вашей жизни, ни о братьях. У нас здесь, хотя изредка, но отпускают людей, взятых в 37 году, отпускают по жалобам. Я также послал жалобу 29.9.39 г. Возможно, что после 24.12.39 будут отпускать больше из забранных в 37 году. Из нашей бригады уехал домой маляр, у которого было 10 лет, так же, как и у меня. В связи с этим все же у меня является надежда, что, быть может, я смогу еще помочь вам в трудной жизни, тем более, что даже лживые наговоры на меня теперь потеряли свою остроту. Пишите, родные, хотя немного, но почаще, потому что слишком большие перерывы бывают. Болит мое сердце о том, что никак не могу помочь вам. Правда, рад и тому, что жизнь моя пока сносная и я всем обеспечен. Получил новые ботинки, две пары белья нового у меня есть, получил новое полупальто (бумажное, ватное), получу полушубок. Работаю маляром, крашу масляными красками кабинеты (стены), окна, двери, полы. Работаю в тепле. Сезон наш кончается, работаем на последних домах. Не знаю, какую работу буду выполнять зимой. Думаю, что как-нибудь дотяну до весны. Здоровье хорошее. За август получил 40 с лишним рублей, за сентябрь — 44. Достаю масло — 16 рублей килограмм, а оно может заменять и сахар.

Пишите, целую вас крепко, поцелуйте Алика -- его с днем рождения, хотел написать ему письмо 24-X-39, но отложил -- все ждал от вас.

**Ваш Уладзімір.**

* * *

*9 ноября 1939 г.*

Дорогая Марилька!

Получил твое письмо 6-го ноября и думал ответить 8, но по случаю ударной работы -- не смог, а пишу сегодня. Живу пока все там же и так же. Не знаю, как будет дальше. Малярных работ хватит еще на несколько недель, а потом придется идти плотничать или еще что-либо подобное. Малярная работа хороша тем, что работаю в тепле, работа аккуратная. По некоторым видам ее основательно набил руку. Плотничьи же или иные будут на открытом воздухе, что, конечно, зимой нежелательно. Если будет [возможность], смогу, быть может, по образцу прошлой зимы поработать с водопроводчиками. В общем -- как-нибудь будет, и моя судьба в этом отношении меньше всего беспокоит меня, так же пусть она меньше беспокоит и вас. Я тебе как-то писал, что судьба твоя и сына меня беспокоит гораздо больше, но, к сожалению, при всем желании я ничего сделать не могу для того, чтобы хоть немного уменьшить вашу пакуту. Одно только и остается -- ждать того, что сердца помягчеют после таких великих поспехов и народ нашего набора (37 г.) пойдет по домам, быть может, и я. С нашей колонны уже много людей ушло домой, частично есть и такие, с какими ехал в одном вагоне сюда. Но это все по воде вилами писано, все это дело будущего. А настоящее мое и твое неважное. Только лишь благодаря твоей энергии, упорству, ты живешь с сыном по-людски. Я по письмам своих сотоварищей по лагерю знаю, что не у всех оно так получается. Правда, некоторым женам не местах даже помогают, но это разная бывает помощь...

Неужели нам так и доведется жить в разлуке. Мне как-то прямо не верится. Моя дорогая! Не обижайся никогда, если в каком письме что-либо тебе не понравится. Поверь мне, что далеко не всегда я имел возможность обдумать то, что пишу, т. к. летом мы работали больше, чем отдыхали. Сейчас только я имею возможность и выспаться, и даже газету почитать, почему и выписал ее на ноябрь месяц. Не всегда успеешь, Марилька моя, написать то, чего хотелось бы написать. Ты ведь знаешь, как писать из-за решеток и за решетку, просто не хочется сказать то, чего хотел бы сказать. Таким знаешь ты, дорогая, меня, а я такой же и сейчас, каким был. Ни мое сердце, ни мой дух не изменились за время нашей разлуки, будем верить, что таким же я и останусь. Поцелуй, моя Марилька, Алика в связи с днем его рождения. Что касается моего портрета, то я постараюсь при возможности прислать лучший.

Целую вас всех.

**Уладзімір.**

Дорогие родные![1]

Получил приписку папы. Горюю вместе с вами о судьбе братьев[2]. Неужели жена Ванькина не может узнать о его судьбе через соответствующие органы. Вам, старикам, это, конечно, трудно. Посоветуйте Павлику подать жалобу, а если его жена о нем не забыла -- пусть она подаст в Москве непосредственно. Он, очевидно, взят по ст. 35, и ему не трудно будет освободиться, так как с этой статьи многие у нас освободились.

Целую вас.

**Уладзімір.**

[1] Прыпіска для бацькоў.

[2] Старэйшы брат Уладзіміра Мікалаевіча Іван і малодшы Павел таксама былі рэпрэсіраваны.

* * *

*7-1-40 г.*

Дорогие родные!

Получил посылку. Особенно благодарен за фотографии. Напрасно Марилька думает, что она на фотографии плохая. Я, признаюсь, думал, что она выглядит хуже. Мне эти фотографии, несмотря на техническую неотделанность, очень нравятся. Сын также выглядит молодцом. Не мешает только, чтобы он уделил больше внимания своему почерку. Ученику 4-го класса неудобно так писать. Жаль, конечно, что не сохранились мои старые тетрадки (последние остались где-то в Смоленской губ.). Алик увидел бы, что я во 2-ой группе писал лучше его. Это нехорошо. Он должен писать лучше меня.

Я работаю и все жду, жду известий об освобождении, ибо чуть не каждый день кто-либо уезжает домой из одного набора со мною. Я уже даже немного суеверным становлюсь, начинаю в свои (хотя и редкие) сны верить... Вот оно как.

Вітаю, Марылька, цябе с гадавінай нашага спаткання. Няўжо лёс не паспрыяе нам у далейшым жыцці, бо... больш няма на каго спадзявацца...

Целую вас всех.

**Уладзімір.**

* * *

*17.II.40.*

Дорогая Марилька!

Написал вам много писем, но, судя по твоему письму от 23.I.40 г., вы их не получили. В этих письмах я сообщал и о получении посылок, и о своем новом адресе, и о своих разных предположениях. Придется, пожалуй, повторить опять, хотя вкратце. Между прочим, в Москву уехал освободившийся у нас бухгалтер нашей колонны Василий Матвеевич Игнатов. Скорее всего он зайдет к вам. Если не зайдет почему-либо (вопрос с пропиской его) -- побывай сама при случае у его жены. Адрес -- Ново-Слободская ул., д. 24, кв. 2.

У тебя бывают, очевидно, разные настроения, бывают они и у меня. Когда я писал тебе письмо, о котором ты говоришь, я никогда не имел в виду людей близких мне, родных, а имел в виду знаешь кого. О своих родных я печалился всегда, даже в своем довольно печальном положении, и радовался не меньше тебя и всех вас тогда, когда было о чем радоваться. Поэтому я крайне изумлен был, когда читал в твоем письме, что я чего-то не так выразился. Скорее всего виновата обстановка, в которой я пишу письма и о которой вы можете иметь самое туманное представление. Но все это пустяки.

15.II.40 г[ода] меня вызывали на беседу по моему делу. Очевидно, что кто-то занялся и моим делом. Хотелось бы, чтобы в конце концов закончилась моя пакута. Хватит, черт возьми! Работал с неделю в конторе, а сейчас опять плотничаю. Потому что нет вакансии. Но, откровенно говоря, в наших условиях интереснее гораздо работать на производстве, чем быть так называемым "придурком" (так называют по-лагерному всех, физически не работающих). Очень много значит то, что живу на месте, без перебросок.

**Публікацыю падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 28.**

# ТРЭЦІЯ КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ






(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

выступала па тэме "Станіслаў Свірка — даследчык спадчыны Чачота", прачытала свой даклад, як і А.Булгак, на польскай мове. Дабраслава Свярчыньска сцвярджала, што ў Польшчы адносіны да Чачота як да паэта сярэдняй рукі, а больш яго ведаюць як сябра Адама Міцкевіча. І даследаванні пра Яна Чачота, і яго творчасць вядуцца праз прызму творчасці яго лепшага сябра, гіганта еўрапейскай літаратуры А.Міцкевіча...

У гэтых чытаннях можна было выдзеліць тры часткі: Ян Чачот як аўтар балад, Я.Чачот — чалавек, які стылізаваў беларускія песні на польскі лад і Ян Чачот — аўтар дыдактычных матэрыялаў. Бо вялікім майстэрствам Чачота з'яўляецца яго ўменне гаварыць з непісьменным народам. Падчас карэліцкіх чытанняў заслухана 14 дакладаў і паведамленняў.

Нагадаю, што наступныя карэліцкія краязнаўчыя чытанні будуць прысвечаны аднаму з карыфеяў навукі і памяці нацыянальнага героя Чылі, вядомага вучонага і даследчыка мінералогіі Ігната Дамейкі.

**Пётр ЖЭБРАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: афіша карэліцкіх чытанняў: адкрыццё бюста Яну ЧАЧОТУ ў Карэлічах.**

## *З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА*

***Выйшла кніжка цудоўных вершаў Галіны ТВАРАНОВІЧ-СЕЎРУК "Ускраек тысячагоддзя". Шкада, што не можам надрукаваць усё. Знаёмства хоць з некаторымі дасць вам уяўленне аб зборніку і яго аўтары.***

**Галіна ТВАРАНОВІЧ-СЕЎРУК**

* * *

**Ля студні маленства,
пад хатай з бярвенцаў,
натолены ўдосталь
бруістай вадзіцай,
барву церпкую спеляць
у лісці зялёным
зялёныя гронкі
агністай каліны —
матулі рукою
пасаджанай.**

*16.07.91. Дараганава.*

* * *

**Сцішанай пакутаю
гаротніцы-матулі
запытваецца Лёс
патрабавальна
пра моц і слабасць —
маіх гадоў набытак.**

**У абалонцы
слабое плоці
нараджаецца
Храм Духу.**

* * *

**Абуджаны ў пакуце дух,
пакутай нараджае сябе далей.
Абраннік светлае сцязі,
палоннік вечнае тугі
імкне па стромкім часе.
Вышэй, далей, вышэй!
Туды, адкуль на подзвігі зямныя
дасланы жыццядайным Словам быў.**

* * *

**Сплывае імглістасць суровых вякоў
над прыхаванымі колісь
вяршынямі духу...
Вось дачакаліся:
выспеліў час
таемныя долю і лёс,
маленне й шлях —
прагу Хрыста
у Беларусі.**

* * *

**Усё.
Спапеленыя мажлівасці,
астылы прысак не маёй душы.
Абыду чужую засмягласць,
каб не выпарылася маё
маленне —
адзіная жывая кропля,
якая прагне Адказу.
І раптам:
пранізлівы смутак —
аднойчы Раскрыжаваны
зноў трымціць болем-пакутаю.
У маёй руцэ —
цвік.
Вяртаюся!**

*24.05.88.*

* * *

**Божа!
Насуперак спёкам, якія здрадай
маёю
Табе — раскашуюцца,
навучы мяне быць удзячнаю.
Дай мне сілы на добрае.
І адымі, калі мыслю благое.
Ачысці крыніцы мае.
Хай бруяцца ў згодзе —
Вера, Надзея, Любоў.**

* * *

**Дасканалай Любові
асалоду хроснага шляху зведаць
у адчаі прагне знясіленая душа...**

**Ды атручаны вусны мае.
Засмечаны дапяглядзь.**

**Ахвяра няўдзячнага часу,
абрыдлая сабе самой жабрачка —
надзею люляю цярпліва:
спакусаў адолею прывід —
маю за правадыра Слова...**

*Красавік 1990, Бялград.*

* * *

**Калі набягае раса нябесная,
Убіраецца ў сілу маленне.**

**Пасмялелыя праталіны душы маёй
Нараджаюць сціплыя кветкі лагоды.**

**Яна струменіць у Вечнасць, туды,
Дзе губляюцца час
і прастора зямныя.**

**Мы маем іх тут, каб, зведаўшы аднойчы
берагі,
Назаўжды стаць удзячнымі —
Т А М...**

# ВАСІЛЬ ВІТКА



5 ліпеня 1996 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько). З жыцця пайшоў таленавіты майстра паэтычнага слова, публіцыст, перакладчык, педагог, шчыры працаўнік на ніве беларускай культуры.

Нарадзіўся Васіль Вітка 16 мая 1911 года ў вёсцы Еўлічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Слуцкай прафтэхшколы (1928) працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, у заводскай шматтыражцы, у бабруйскай і жлобінскай райгазетах, у рэдакцыях "Чырвонай змены", "Літаратуры і мастацтва", часопіса "Полымя рэвалюцыі", сакратаром Беластоцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Падчас Вялікай Айчыннай вайны — рэдактар масавых выданняў для акупіраваных раёнаў, супрацоўнік газет "Савецкая Беларусь", сатырычных часопісаў "Партызанская дубінка" і "Раздавім фашысцкую гадзіну". З дня ўтварэння часопіса "Беларусь" (1944) працаваў яго адказным сакратаром, а з 1948 года — намеснікам галоўнага рэдактара, а затым на працягу шасці гадоў — галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва". У 1957—1974 гадах — галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", з 1974 па 1987 год — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм".

Друкавацца пачаў у 1928 годзе. Першы зборнік вершаў "Гартаванне" быў выдадзены ў 1944 годзе ў Маскве. Потым выходзілі з друку больш двух дзесяткаў кніг Васіля Віткі, сярод якіх зборнікі паэзіі "Поўдзень", "Вернасць", "Ружа і штык", "Паверка", "Праводзіны лета", "Вышэні святла", "Случчына", "Трэція пеўні", паэтычныя кнігі для дзяцей "Вавёрчына гора", "Буслінае лета", "Казка пра цара Зубра", "Дударык", "Азбука Васі Вясёлкіна", "Чытанка-маляванка", "Хто памагае сонцу", "Ладачкі-ладкі" і многія іншыя. Пра рознабаковасць таленту Васіля Віткі сведчаць і кнігі літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў на маральна-этычныя і выхаваўчыя тэмы: "Дзеці і мы", "Урокі", "Азбука душы". Ён адзін з аўтараў чытанак "Роднае слова" для 1, 2 і 3 класаў. Яго пяру належыць зборнік сатыры і гумару "Для дома, для альбома і трохі для эпохі". Неаднаразова выходзілі выбраныя творы пісьменніка. Ён аўтар п'ес "Прамень будучыні" і "Шчасце паэта". Вядомы Васіль Вітка і як перакладчык твораў М.Салтыкова-Шчадрына, У.Маякоўскага, В.Сухамлінскага, іншых рускіх, украінскіх, латышскіх, балгарскіх і польскіх пісьменнікаў.

Творчасць Васіля Віткі атрымала прызнанне як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. У 1972 годзе пісьменніку была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР за кнігі для дзяцей, а ў 1978 годзе ён узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К.Андэрсена.

Жыццё і творчасць Васіля Віткі, адзначаецца ў некралогу, падпісаным высокімі ўрадавымі асобамі і вядомымі пісьменнікамі, — прыклад самааддананага служэння роднай Бацькаўшчыне, свайму народу. На яго творах выхоўвалася і будзе выхоўвацца не адно пакаленне беларусаў.

**Да сказанага далучаецца і "Голас Радзімы", на старонках якога часта выступаў з мудрым словам Васіль Вітка.**

# ДАНІЛА МІЦКЕВІЧ



7 ліпеня 1996 года пасля цяжкай хваробы памёр Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, сын Якуба Коласа.

Нарадзіўся Даніла Міцкевіч 30 верасня 1914 года ў горадзе Пінску, дзе бацькі працавалі настаўнікамі.

Вучыўся ў 13-й сямігадовай школе г. Мінска, затым у хімпрафшколе. Працаваў лабарантам хіміка-тэхнічнага тэхнікума. З красавіка 1932 года па ліпень 1936 года — студэнт хімфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Паступіў у аспірантуру. Вучыўся і аднačасова загадваў вытворчай практыкай студэнтаў хімфака БДУ. З верасня 1939 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў старшым выкладчыкам на факультэце.

У гады ваеннага ліхалецця, як вучоны-хімік, працаваў у галіне абароннай прамысловасці. З мая 1944 па сакавік 1952 года ён — вучоны сакратар Інстытута хіміі Акадэміі навук Беларусі, з сакавіка 1952 года — загадчык лабараторыі гэтага інстытута.

Для Бацькаўшчыны бацькаўшчыну захоўваць былі закліканы Даніла Канстанцінавіч пасля смерці Якуба Коласа. У красавіку 1957 года ён прызначаецца дырэктарам музея народнага паэта. Усё, што датычылася памяці песняра, турбавала і хвалявала найперш Коласавага сына.

Дасканалы знаўца біяграфіі народнага паэта, ён шчодра задавальняў патрэбы ўсіх цікаўных. Неацэнную паслугу аказаў работнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі пры падрыхтоўцы 12- і 14-томных Збораў твораў Якуба Коласа: вытлумачыў шмат якія моманты гісторыі напісання твораў, пракаменціраваў багатую эпісталярную спадчыну песняра. Ён — адзін са складальнікаў зборнікаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа, альбомаў.

Звыш дваццаці гадоў кіраваў Даніла Канстанцінавіч Літаратурным музеем Якуба Коласа.

Апошнім часам цікавыя старонкі жыццяпісу славутага бацькі ён прапанаваў удзячным радыёслухачам і чытачам.

Ад нас пайшоў людскі, мудры чалавек, самы коласаўскі Коласавец.

## СВЯТА СТАЛІЦЫ













(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Галоўныя ж падзеі свята разгарнуліся на праспекце Машэрава, дзе апоўдні адбылося адкрыццё Дня горада. На сцэне адзін творчы калектыў змяняў другі, а народ тым часам рыхтаваўся да амаль што асноўнай падзеі гэтага дня -- свята аматараў піва "Смага-96". У рамках свята адбылося шмат цікавых конкурсаў, у якіх з энтузіязмам удзельнічалі самыя шырокія масы аматараў нацыянальнага напою. Адны перацягвалі канат, другія з мінашукальнікамі спрабавалі знайсці закапаную ў зямлі бутэльку піва, а трэція спаборнічалі за званне "Спадар "Смага-96". Крытэрый у гэтым конкурсе быў адзін -- колькасць выпітага піва. А вось прызоў, устаноўленых беларускімі піўзаводамі, было тры: халадзільнік "Мінск", двухкасетная магнітола і права на працягу года бясплатна карыстацца паслугамі новага піўнога рэстарана "Альварыя".

Каля шасці гадзін вечара ў горадзе адбылася водная феерыя. Не тая, што была абяцана артыстамі балета. Гэтае прадстаўленне давала прырода. Здавалася, што моцны лівень на некаторы час, як і трэба на Івана Купалу, змяшаў усе стыхіі, а маланкі зіхацелі ў вечаровым небе ярчэй за ўсе феерверкі. Здавалася, свята скончана. Але дождж у рэшце рэшт спыніўся, і Дзень, а калі дакладней, ужо вечар горада працягваўся далей.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКАХ: сярод удзельнікаў свята горада быў і Прэзідэнт Беларусі А. ЛУКАШЭНКА; фрагменты свята беларускай сталіцы.

Фота Аляксандра СТАВЕРА.







Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 738. Падпісана да друку 15.7. 1996 г.